**№ 18 (4065)**

4 сакавіка 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**Як вядома, традыцыйна “Народная Воля” выходзіць па аўторках і пятніцах. З-за святкавання 8 Сакавіка рэдакцыя вымушана ўнесці ў рабочы каляндар адпаведную папраўку. У наступны аўторак чарговы нумар газеты не выйдзе, а з’явіцца толькі ў пятніцу 11 сакавіка.**

ЧУЛІ?

## У Мінгарвыканкам пададзена заяўка на правядзенне традыцыйнай акцыі з нагоды Дня Волі

Заяўка пададзена 3 сакавіка. Яе падпісалі Мікалай Статкевіч, Анатоль Лябедзька, Віталь Рымашэўскі, Аляксей Янукевіч, Вячаслаў Сіўчык, Таццяна Міронава, Рыгор Кастусёў і Алесь Лагвінец.

Збор удзельнікаў акцыі плануецца на пляцоўцы перад будынкам Акадэміі навук з 18.00 да 19.00. Затым у гэтым жа месцы мяркуецца правядзенне 20-хвіліннага мітынгу, пасля чаго калона дэманстрантаў плануе шэсце па ходніках праспекта Незалежнасці да парку Янкі Купалы, дзе, калі ўлады дадуць згоду, з 20.00 да 20.30 працягнецца мітынг.

Як адзначаецца ў заяўцы, мэтай масавага мерапрыемства з’яўляецца «публічнае абмеркаванне і святкаванне 98-й гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, а таксама абмеркаванне і выказванне грамадзянамі свайго стаўлення да праблем грамадска-палітычнага жыцця Беларусі і геапалітычнай сітуацыі ў рэгіёне».

Меркаваная колькасць удзельнікаў святкавання Дня Волі невялікая – 950 чалавек.

ТОЛЬКІ ЛІЧБЫ

## Віцебшчына: SOS!

Нацыянальны статыстычны камітэт Рэспублікі Беларусь (Белстат) апублікаваў на сваім сайце спіс арганізацый, якія не разлічыліся са сваімі работнікамі за люты.

Такіх ва ўсёй Беларусі знайшлося 153, з якіх 129 – прадпрыемствы сельскай і лясной гаспадаркі. Пры гэтым статыстыка сведчыць, што сапраўдная катастрофа з выплатай заробкаў на Віцебшчыне: 118 арганізацый-даўжнікоў са 153 знаходзяцца менавіта ў гэтым рэгіёне.

Як жа людзям, якія кормяць краіну, самім пражыць і дзяцей выгадаваць?

ПАЛІТКУХНЯ

## У пралёце

Міністэрства юстыцыі Беларусі ў шосты раз адмовіла ў рэгістрацыі партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» (БХД).

Чыноўнікі выявілі ў дакументах «грубыя парушэнні заканадаўства Рэспублікі Беларусь». Як інфармуе прэс-служба Мінюста, падчас выбарачнай праверкі шэраг грамадзян заявілі, што не з’яўляюцца заснавальнікамі і не ставілі сваіх подпісаў у дакументах. Некалькі чалавек у іх паўтараліся, пра некаторых заснавальнікаў былі пададзены «дадзеныя, якія не адпавядалі сапраўднасці». Да таго ж, як высветліў Мінюст, не ўсе заснавальнікі партыі з’яўляюцца грамадзянамі Беларусі.

КАДРЫ

## Ракіровачка

Аляксандр Лукашэнка прызначыў **Ігара Войтава** рэктарам Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта. Да ўчарашняга дня Войтаў займаў пасаду старшыні Дзяржаўнага камітэта па навуцы і тэхналогіях.

Адстаўка рэктара БДТУ **Івана Жарскага** таксама падзея не з шараговых. Справа ў тым, што рэктар гэтай навучальнай установы не мяняўся… 30 гадоў. Жарскага прызначылі на гэтую пасаду ў 1986-м, тады ВНУ яшчэ называлася Беларускі тэхналагічны інстытут імя Кірава. І тады гэта быў адзін з самых маладых рэктараў – усяго 41 год. А зараз яму за 70… Хто яшчэ столькі працаваў на гэтай пасадзе? Так што Івану Міхайлавічу застаецца толькі сказаць “Дзякуй!”.

**Алег СНОЎ.**

ЛОБ У ЛОБ

# Анатоль супраць Анатоля



*Ужо некалькі дзён у інтэрнэце не сціхаюць жарсці: лідар грамадскага аб’яднання «Перспектыва» **Анатоль Шумчанка** і старшыня Аб’яднанай грамадзянскай партыі **Анатоль Лябедзька** высвятляюць, за кім з іх пойдуць людзі, у каго большы аўтарытэт сярод мас…*

Справа ў тым, што 23 лютага Анатоль Шумчанка і былы палітвязень Мікалай Статкевіч падалі ў Мінгарвыканкам заяўку на правядзенне ў сталіцы 14 сакавіка Маршу прадпрымальнікаў. А праз 6 дзён, 29 лютага, АГП, якой кіруе Анатоль Лябедзька, таксама звярнулася да мінскіх улад з просьбай дазволіць правесці 14 сакавіка марш «За годнае жыццё».

Паводле беларускага заканадаўства, правядзенне дзвюх акцый у адзін дзень у адным месцы забаронена. У лепшым выпадку ўлады адмовяць аднаму з заяўнікаў. Безумоўна, і Шумчанка, і Лябедзька пра гэта ведаюць. Чаму тады ўзнікла падобная сітуацыя? Няўжо нельга было сустрэцца, пагаварыць, а потым прыняць сумеснае рашэнне?! Прадэманстраваць кансалідацыю ў шэрагах апанентаў улады. А атрымалася тое, што мы назіраем апошнім часам у колах тых, хто, здавалася б, павінен аб’ядноўвацца сам і аб’ядноўваць вакол сябе людзей, – разборкі, папрокі, мышыная валтузня.

Якога выніку чакаюць Шумчанка і Лябедзька пасля падобнага скандалу?

### Анатоль ШУМЧАНКА: «Лябедзька паступае гнюсна і подла»

– Пра што я магу з імі дамаўляцца? З людзьмі, якія робяць усё назло і наўмысна… Які ў гэтым сэнс? Якую мэту пераследуе Лябедзька? Пачнём з таго, што мне ніхто не тэлефанаваў. Лябедзька не палічыў патрэбным нават сказаць нам пра свае планы. Потым ужо ён напісаў Мікалаю Статкевічу: маўляў, трэба папіць кавы… На што Статкевіч адказаў: «Тэма?» І ўсё. Цішыня.

Мне падаецца, што ў Лябедзькі яшчэ ёсць час паступіць прыстойна і па справядлівасці: адклікаць сваю заяўку. І хай ён не кажа, што стараецца для прадпрымальнікаў, хоча кагосьці там падстрахаваць. Прадпрымальнікі самі не хочуць такой АГПэшнай афарбоўкі Маршу, ён першапачаткова задумваўся як непалітычная акцыя, наша мэта – аб’яднаць прадпрымальнікаў для барацьбы за свае правы.

Хіба Лябедзька здольны сабраць людзей? Апошнім часам АГП толькі падладжваецца да чужых акцый. На што гэтая партыя сама сёння вартая? А мы, я ўпэўнены, 14 сакавіка зможам сабраць шмат людзей. Таму што ніхто, акрамя нас, на рынкі не ездзіў, улёткі не раздаваў, з прадпрымальнікамі не працаваў.

І хто зрывае нашы планы? Апазіцыя! Вядомая партыя! Навошта? Выснова напрошваецца толькі адна: Лябедзька робіць гэта спецыяльна і наўрад ці самастойна. Як думаеце, хочуць сёння ўлады дазволіць у Мінску акцыю, арганізатарам якой выступае Статкевіч? Як гэтага не дапусціць і захаваць твар перад Захадам? Атрымаць заяўку на правядзенне яшчэ адной акцыі. А калі яшчэ гэта заяўка будзе ад апазіцыі…

Мне здаецца, усё відавочна. Лябедзька паступае гнюсна і подла. І ацэнку гэтаму людзі дадуць! Але ў яго яшчэ ёсць час захаваць твар.

### Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА: «Мы адклікаем заяўку, але не адклікаем стратэгію адной калоны»

– АГП дзейнічала, як кажуць, з лепшых памкненняў, мы не чакалі такой рэакцыі.

Я прысутнічаў на акцыях прадпрымальнікаў, якія яны ладзілі па панядзелках на Кастрычніцкай плошчы. Быццам бы “Перспектыва” да гэтага не мела ніякага дачынення. Але тым не менш на апошнюю акцыю прыйшло ўдвая менш людзей, чым на першую. Відаць было, што фактар часу працаваў не на прадпрымальнікаў, што яны абралі не зусім правільную тактыку і стратэгію: чым больш пройдзе часу, тым больш яны выматаюць уладу. Ва ўлады рэсурс значна большы.

У АГП было толькі адно жаданне: на акцыю 14 сакавіка запрасіць, падцягнуць пенсіянераў, студэнтаў, хатніх гаспадынь. Таму што ісці і падтрымліваць прадпрымальнікаў – гэта не ўсім трэба. Але многія беларусы незадаволены сёння лічбамі ў жыроўках, нізкімі заробкамі, падзеннем узроўню жыцця...

Чаму мы не дамовіліся з «Перспектывай», не ўзгаднілі дзеянні? Першапачаткова яны ж таксама ні з кім не раіліся... Але мы не будзем ствараць нейкую там штурханіну. Мы адклікаем заяўку, але не адклікаем стратэгію адной калоны, у якой стаяць і прадпрымальнікі, і пенсіянеры, і рабочыя, і г.д. Мы пададзім заяўку на правядзенне маршу «За годнае жыццё» на Дзень Волі, 25 сакавіка.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ЗАДНІ ХОД

# Не ведаюць, што сказаць людзям?

Запланаваная на 2 сакавіка прэс-канферэнцыя прадстаўнікоў Міністэрства ЖКГ узгаднялася практычна да апошняга. Мерапрыемства было анансавана Нацыянальным прэс-цэнтрам яшчэ ў канцы мінулага тыдня з пазнакай «Удакладніць». Нарэшце, увечары 1 сакавіка стала вядома, што прэс-канферэнцыя ўсё ж пройдзе.

У прызначаны час каля паўтара дзясятка журналістаў сабраліся ў Нацыянальным прэс-цэнтры, аднак прадстаўнікі Міністэрства ЖКГ не з’явяліся. Праз 15 хвілін намеснік дырэктара, начальнік аддзела арганізацыі інфармацыі НПЦ **Аляксей Цыбулька** сказаў прысутным, што арганізатары спрабуюць высветліць, што здарылася, паколькі яшчэ раніцай прадстаўнікі міністэрства пацвердзілі ўдзел у прэс-канферэнцыі. Яшчэ праз некалькі хвілін Цыбулька паведаміў, што першы намеснік міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі **Алег Паскробка** спазняецца з-за экстраннай нарады, але прыедзе на сустрэчу з журналістамі праз 5–7 хвілін. Яшчэ праз паўгадзіны стала вядома пра адмену прэс-канферэнцыі.

Паводле слоў Аляксея Цыбулькі, першы намеснік міністра ЖКГ прынёс свае прабачэнні і заявіў, што яму трэба ехаць на іншую экстранную нараду. Але вельмі падобна на тое, што прадстаўнікі ведамства проста не ведаюць, што казаць журналістам, а праз іх – людзям.

**Ігар КАРНЕЕЎ.**

ОСОБЫЙ СЛУЧАЙ

# Василий Парфенков: герой или хулиган?

20 февраля 2016 года – во вторую годовщину расстрела Майдана – в Киеве прошел ряд акций, организованных разными политическими силами. На Майдане Независимости люди отдали почести погибшим в тот трагический день 2014 года. В это же время диссонансом прозвучала информация, переданная всеми СМИ, о том, что в центре столицы разгромлены банки и офисы, связанные с российским бизнесом и донецким олигархом Ринатом Ахметовым. Активными участниками этих погромов оказались два белоруса – бывшие политические заключенные Василий Парфенков и Эдуард Лобов. Парфенкова задержали, в отношении него возбуждено уголовное дело.

Как расценивать эту выходку? После событий в Киеве Василий Парфенков – герой или обычный хулиган?

Но, прежде чем сделать какие-то выводы, я хотел бы напомнить о том, что сегодня происходит в Украине.

Уже ни для кого не секрет, что последние два года Россия ведет войну с Украиной. Официальный Киев, с одной стороны, это как бы признает, а с другой – прямых действий, направленных против государства-агрессора, государственными органами Украины практически не предпринимается: дипломатические связи с Российской Федерацией не разорваны, границы не перекрыты, торговля худо-бедно продолжается, российский бизнес в Украине работает.

Безусловно, многие в Украине задаются вопросом: если идет война, страна несет людские, территориальные, имущественные потери, то почему государственные лица, признавая это на словах, не предпринимают адекватных действий, направленных на защиту интересов управляемой ими страной? Почему в то время, как украинское имущество грабительски отобрано на оккупированных территориях, российские компании беспрепятственно работают в Украине? Почему Российская Федерация извлекает в Украине прибыль, которую тратит в том числе и на убийство украинских граждан? Почему по прошествии двух лет с момента изгнания приверженцев коррумпированного режима Януковича коррупция в Украине не искоренена и коррупционеры всех мастей до сих пор правят бал в стране?

Вполне адекватные вопросы представителей украинского общества к власти, правящей от лица народа Украины: президенту, парламенту, Кабинету министров, судьям, представителям силовых министерств. Два года в стране проводятся лишь косметические изменения, а структурных реформ не происходит. В потенциально богатом государстве по-прежнему превалирует бедное население, а всеми активами распоряжается крупный бизнес, приватизирующий, по сути, государственные органы и всю властную вертикаль.

Отсутствие структурных реформ в украинском государстве чревато достаточно серьезными последствиями для дальнейшего существования Украины. И события 20 февраля 2016 года в Киеве – это первые звоночки, грозящие перерасти в набат.

Активными участниками погромов в офисах российских банков оказались два белоруса – Василий Парфенков и Эдуард Лобов. Отсидев свои сроки в белорусской тюрьме по итогам президентской кампании 2010 года, после освобождения они покинули Беларусь и влились в добровольческие батальоны, приняли активное участие в боевых действиях по защите территориальной целостности Украины от чрезмерно разгулявшихся аппетитов Российской Федерации.

Василий Парфенков воевал в составе добровольческого батальона ОУН (Организация украинских националистов) в одной из самых горячих на сегодняшний день точке Украины – в поселке Пески. Был там тяжело ранен, длительное время проходил лечение в госпиталях, получил украинское гражданство в ноябре 2015 года.

В апреле того же года в личной беседе со мной комбат Николай Коханивский характеризовал Василия: *«Очень хороший и дисциплинированный боец. Политически мотивированный – идейный. Я, как командир подразделения, буду всеми путями добиваться официальной легализации таких воинов в Украине»*.

В результате Парфенков первый из иностранцев этого подразделения стал гражданином Украины. В итоге он же оказался единственным задержанным по факту событий 20 февраля 2016 года. Депутаты Верховной Рады Украины Андрей Лозовой, Дмитрий Минько, Игорь Мосийчук и Игорь Луценко лично поручились перед судом за Василия Парфенкова.

Николай Коханивский в защиту Парфенкова заявил, что его арест является политически мотивированным, что Василий не совершал разбоя, а выполнял его приказы как своего командира. Комбат пригрозил, что в случае, если власти не отпустят бойца, он организует поджоги российских банков. На сегодняшний день украинский суд определил ему меру пресечения в виде домашнего ареста. К слову, сам комбат ежедневно с 22.00 до 6.00 утра также находится под домашним арестом. А по данным фактам начаты уголовные производства по статье «Хулиганство», наказание по которой – ограничение свободы на срок до 5 лет или лишение свободы до 4 лет.

Можно ли сегодня дать четкий ответ на вопрос, кто Парфенков в Украине – герой войны или обычный хулиган? А может, он просто заложник ситуации? Солдат, которому отдали приказ и он не ослушался?

Вопросы, вопросы, вопросы… Я, уважаемые читатели, боюсь давать однозначный ответ. Тем более что ведется следствие, проясняются многие обстоятельства. Как собственный корреспондент «Народной Воли» в Украине, я буду следить за развитием событий и информировать вас, белорусских читателей.

**Александр ЦЫНКЕВИЧ, собственный корреспондент газеты «Народная Воля» в Украине.**

ПРИГОВОР

# Экс-главу Узденского райисполкома осудили на семь лет

*Суд признал, что Вячеслав Пахольчик получил взятку в особо крупном размере.*

«Народная Воля» подробно писала о громком процессе по делу **Вячеслава Пахольчика**, который начался в январе этого года. Экс-главу Узденского райисполкома и директора Узденского райагросервиса **Александра Бича** обвиняли в получении взятки в 13 тысяч евро за поставку свеклоуборочного комбайна.

К Пахольчику обратилась фирма WS Landtechnik Vertrieb GmbH, которая занималась продажей сельскохозяйственной техники. Представители фирмы – директор **Владимир Штрайхерт** и менеджер **Павел Валюкевич** – предложили приобрести у них самоходный свеклоуборочный комбайн Rexor 620. Его стоимость составляла более 434 тысяч евро. Был проведен конкурс на закупку свеклоуборочной техники. Согласовав вопрос с Пахольчиком, Бич не проводил никакого голосования. Он единолично выбрал победителя, и остальные члены комиссии были вынуждены с этим согласиться. Уже после приобретения комбайна Пахольчику и Бичу передали взятку в 13 тысяч евро (по тогдашнему курсу – более 206 миллионов рублей). Эту сумму они получали в три приема в конце 2014 – начале 2015 года.

Суд посчитал вину обвиняемых доказанной. Вячеслав Пахольчик приговорен к семи годам лишения свободы. Также он на пять лет лишился права занимать должности, связанные с организационно-распорядительными и административно-хозяйственными функциями. Впрочем, карьера Пахольчика скорее всего завершена: он уже пенсионер. С экс-главы района будет взыскано свыше 58 миллионов рублей незаконно полученной выгоды и более 2 миллионов госпошлины.

Кроме Пахольчика свои сроки получили и другие фигуранты громкого дела. **Александр Бич** осужден на шесть лет лишения свободы с конфискацией имущества. Он лишился права занимать аналогичные должности сроком на пять лет. С него будет взыскана госпошлина и более 32 миллионов незаконно полученной выгоды. **Владимир Штрайхерт** признан виновным в незаконном хранении патронов и даче взятки. Он проведет в местах не столь отдаленных три года. Его подчиненный **Павел Валюкевич** сможет выйти на свободу лишь через два года.

**Денис МАРТИНОВИЧ.**

УЧОРА

## Прызначаны!

**Іваноў Алег Мікалаевіч** – Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Таджыкістан, Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Ісламскай Рэспубліцы Афганістан па сумяшчальніцтве.

***

**Барысюк Генадзь Іосіфавіч** – кіраўніком адміністрацыі Ленінскага раёна г.Брэста;

**Лііневіч Анатоль Канстанцінавіч** – старшынёй Капыльскага райвыканкама;

**Вайнілка Анатоль Мар’янавіч** – старшынёй Мядзельскага райвыканкама;

**Васілеўскі Дзмітрый Уладзіміравіч** – старшынёй Дрыбінскага райвыканкама;

**Касмачоў Міхаіл Міхайлавіч** – старшынёй Чэрыкаўскага райвыканкама;

**Дарахові Аляксандр Вікенцьевіч** – кіраўніком адміністрацыі Заводскага раёна г.Мінска;

**Трушчанок Юрый Уладзіміравіч** – кіраўніком адміністрацыі Савецкага раёна г.Мінска;

**Шастакоў Яўген Андрэевіч** – намеснікам міністра замежных спраў;

**Зяневіч Андрэй Алегавіч** – рэктарам установы адукацыі «Беларуская дзяржаўная акадэмія сувязі»;

**Рабава Ганна Мікалаеўна** – намеснікам міністра сувязі і інфарматызацыі;

**Аўраменка Аляксей Мікалаевіч** – першым намеснікам міністра транспарту і камунікацый;

**Ляхновіч Аляксей Аляксеевіч** – намеснікам міністра транспарту і камунікацый;

**Шылаў Ігар Сяргеевіч** – першым намеснікам начальніка Беларускай чыгункі;

**Арушаньянц Пётр Барысавіч** – дырэктарам Дэпартамента па прадпрымальніцтве Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь (на перыяд знаходжання дырэктара ў адпачынку па доглядзе дзіцяці да дасягнення ім узросту трох гадоў);

**Юрчанка Мікалай Мікалаевіч** – начальнікам дэпартамента абароннай прамысловасці і ваенна-тэхнічнага супрацоўніцтва Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы;

**Сысоеў Аляксандр Уладзіміравіч** – кіраўніком спраў Віцебскага аблвыканкама.

СТАЛО ИЗВЕСТНО...

## Президент США Барак Обама продлил на год действие санкций в отношении России из-за событий в Украине

В документе, распространенном Белым домом, говорится, что действия и политика России в отношении Украины угрожают ее миру, безопасности, стабильности, суверенитету и территориальной целостности, подрывают демократические процессы и институты в этой стране. Также отмечается, что сложившаяся ситуация представляет чрезвычайную угрозу для национальной безопасности и внешней политики США.

